№ 7. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 7 (99). Год II. Вільня, 23 студня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Маніфэстацції у Пецярбурзі.

## 22 студня.

**Заходні тэатр:**

Пры Ленс у бітве на ручные гранаты адбіта атака англічан. Пры Бэзонво і на ўсходзі ад Понт-а-Муссон дружыны разведчыкоў, напаўшы на пазыцыі ворагоў, прывялі с сабой назад некалькі палонных французоў і кулемёт.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскага*: На заходзі ад Фрыдрыхштадту ў начы адбіты атакаваўшые дружыны расейскіх егроў.

*Фронт эрц гэрцога Іозэфа*: У усходніх Карпатах у некалькіх пунктах булі удачные для нас патрульные бітвы. На поўначы ад даліны Ойтоса быў з абодвых бакоў значны артылерыйскі агонь.

*Фронт Макензэна:* На заходзі ад Панчына атрад ворагоў атакаваў нашы варты на Путне. Мы адбілі яго.

*Македонскі фронт*: Апрыч пададзінокіх патрульных стычэк, ніякіх выдатных прыпадкоў.

---

## Аустрыяцкае апавешчэньне.

ВЕНА. 22І.. **Усходні тэатр**: У гарах Одобэсці адбіты дружыны разведчыкоў ворагоў. На ўсходзі ад Неільніцы, на Валыні, атрады пешага палка № 8 уварваліся ў расейскіе акопы і прывялі с сабой назад 1 афіцэра, 109 салдатоў, 1 мінамёт і 1 кулемёт. Цэльны артылерыйскі агонь зрабіў ворагам цяжкіе крывавые страты.

**Італьянскі тэатр**: Без выдатных прыпадкоў.

**Палудзенна-усходні (албанскі) тэатр**: На поўдні ад возера Орхіды нашы войскі адбілі наступленьня ворагоў.

## Соцыялісты за мір.

ЛОНДОН. Кіраўнікі англіцкіх соцыялістоў вялі перэгаворы з заграніцай аб сазыве міжнароднай соцыялістычнай конфэрэнціі. Гэткую конфэрэнцію гатовы паддзержаць і францускіе соцыялісты.

## Пад „усіленай ахранай".

ПЕЦЯРБУРГ. Паводлуг вестак з розных мейсц, палажэньне лічыцца вельмі сур'ёзным. Кожын дзень адбываюцца дэмонстрацыі, ды пры гэтым чутны крыкі: „Даволі вайны".

ЛУГАНО. „Secolo" даносіць с Пецярбурга, што 15 студня ўвесь пецярбурскі ваенны округ аб'яўлен пад „усіленай ахранай".

КІШЫНЕВ. Тут і ў Хоціме былі вялікіе разрухі між уцекачамі, каторые зрабілі на вуліцах дэмонстрацію с клікамі: „Душэгубы! дайце нам хлеба!"

## Руіны Галяцу.

ВЕНА. Як даносяць аўстрыяцкіе лятуны, палудзенные форты Галяцу і акопы на заходзі ад места зусім зруйнаваны. Руіны сьведчаць аб рабоці цяжкай артылерыі. Асабліва цяжка пацярпелі фортовые будоўлі.

## Грэцкая трагедія.

АТІНЫ. Ваенные прэдстаўнікі саюзьнікоў заявілі грэцкаму генэральнаму штабу, што дзеля перавозкі ўсіх гармат і кулемётоў грэцкай арміі ў Пэлопонэз назначэно 14 дзён, пачынаючы ад 20 студня.

## „Нямецкіе" рублі.

КОЎНА. У канцы верэсьня таго году „нямецкіх" рублёў хадзіло на суму 20,000,338 руб., у канцы кастрычніка—21,600,001, у канцы лістапада—24,065,160 і ў канцы году—28,575,200 руб.

---

## „Аддзяка."

С таго часу, як землі колішняго Вялікаго Князьства Літоўскаго—Літва і Беларусь — зліліся ў сваім дзержаўным жыцьці с Польшчай, глаўны кірунак супольнай дзержаве пачалі даваць палякі. І хоць нашы краёвые сілы, каторые, ня гледзячы на утрату сваей нацыональнасьці, выяўлялі далей здольнасць да творчай працы, іх работа праходзіла ўжо пад польскім імем, даючы апошняму сваю славу.

Пазьней, калі дзержаўны быт Рэчыпаспалітай счэз, і наша старонка апынулася пад уласьцю Расеі, творчые сілы нашаго народу і Краю ня счэзьлі: наадварот, яны пачалі выяўляцца з асаблівай мопай у сфэры ўжо не дзержаўнай, а чыста культурнай работы. Але, як пад той час „мовай інтэлігенціі" была ў нас польская мова, дык і нашы культурные работнікі ужывалі гэтай мовы ў сваей творчасьці, і мы далі польскай літэратуры такіе велічыні, як несьмяртэльнай славы паэт Адам Міцкевіч, сын зямлі Навагрудзкай, як гэтак добра вядомы віленцам Сырокомля, на магіле катораго што году ў дзень Дзядоў збіраецца ўся моладзь Вільні, як цэлы рад іншых вялікшай меры выдатных людзей.

Але вось мінуў час толькі культурнай работы. Надыходзіць японская вайна, а з ей вялікі агульнарасейскі рух да вызваленьня ўсіх паняволеных народоў дзержавы с-пад уціску царскаго самаўладнаго правіцельства. Рух гэты асабліва энэргічна выяўляецца ў Польшчы—ў партыйнай рабоці P. P. S. (польскай партіі соцыялістычнай). І тут сыны нашай зямлі занімаюць выдатнае мейсцо: яны кідаюцца туды, дзе ёсць найбольшая небаспечнасць, і толькі акты расейскіх ваенных судоў могуць даць праўдзівые ведамасьці, хто быў тады найбольш чынны, хто за вялікае, сьвятое дзело вызваленьня ўсіх народоў Расеі без ніякаго жалю, не задумываючыся, аддаваў усе свае сілы, сваю долю, сваё шчасьце, сваё жыцьцё. С часам гісторыкі аткрыюць і гэту карту мінуўшчыны, і тады на страніцах гісторыі слаўнаго змаганьня зя волю народоў будуць упісаны чысьленые імёны сыноў Беларусі і Літвы.

Урэшці прышла вялікая эўропейская вайна. Пакуль ешчэ ў нас цьвёрда стаялі расейскіе сілы, часць Польшчы апынулася на волі, і там наладзіліся першые зачаткі арміі, каторая мелася змагацца проці маскоўскай няволі. А на перадзі ўсіх організаваных аружных сіл Польшчы, выступіўшых супроць Расеі, стануў наш віленец—Язэп Пілсудзкі. І побоч з ім, укрываючыся пад выдуманымі прозвішчамі, ліюць кроў сваю тысячы сыноў нашаго Краю, пасьпяшыўшых на першы кліч туды, дзе б'юцца за волю, не пытаючыся, каму будуць тую волю дабываць

Іх трудом і зноем ваенным, іх крывёй куплена апавешчэная цэнтральнымі дзержавамі незалежнасць Польскаго Каралеўства. А тымчасам ад першаго дня жыцьця першаго польскаго правіцельства мы чуем офіцыальные заявы, што наваладжэная польская армія, дзе гэтак многа сыноў Беларусі і Літвы, павінна „споўніць гісторычную міссію Польшчы, пашыраючы яе граніцы на адваёваные ад Расеі землі",—значыць, на наш Край.

Гэткай „аддзякі" мы цяпер прыждалі.

*І. Мелешка.*

---

## Адозва польскаго правіцельства.

ВАРШАВА. Тымчасовая дзержаўная рада Польшчы звярнулася да палякоў з адозвай, у якой, між іншым, гаворыцца:

„Чысьленая, ваяўнічая і добра вымуштраваная армія паможэ здабыць патрэбные для Польшчы граніцы".

---

# У Вільні і ваколіцах.

× **Выстаўка біблій.** С прычыны 400-летняго юбілею рэформацыі, ў Ліпску ладзіцца выстаўка біблій на ўсіх мовах сьвету. Выстаўка будзе вельмі цікавая.

Трэба думаць, што на выстаўцы будзе і беларускі перэклад бібліі д-ра Францішка Скарыны, 400-лецьце каторай беларусы сьвяткуюць таксама сёлета.

× **На беларускіе вучыцельскіе курсы ў Вільні**, каторые, трэба спадзевацца, ізноў аткрыюцца ў скорым часі, адміністратар дыэцэзіі назначыў дзеля выкладу рэлігіі кс. Міхала Аборовіча.

× **У справе прымусовых работ.** Прэдстаўнікі нацыональных камітэтоў помачы: беларускаго, двох літоўскіх, польскаго і жыдоўскаго, а так сама і прафэсыональных работніцкіх саюзоў падалі праз упоўнамочэные дзеля гэтаго асобы мэмор'ял Stadthauptmann'u у справе набору на прымусовые работы і аб палажэньні работні-

дарэмна атакавалі нашы пазыцыі. Уварваўшыеся ў адным пункце ворагі былі выкінуты назад. На поўначы ад даліны Сусіта румыны далей вялі свае шалёныe атакі. У цяжкіх бітвах яны пяць разоў былі адкінуты і утрацілі, апрыч некольскіх сот забітымі, 400 душ палоннымі.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Вялікіе сьнежные мяцелі і нявідная пагода не давілі артылерыі працаваць. Нямецкіе войскі здабылі ўчора ля Сэрэту места Нанэсті.

*Македонскі фронт:* У дзень і ў начы было спакойна.

**21.І. Заходні тэатр.**

Апрыч вострай мейсцамі артылерыйскай бітвы і уда-ных патрульных опэрацій, ніякіх выдатных прыпадкоў.

**Усходні тэатр.**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: На усходзі ад Баранавіч нямецкіе патрулі ўварваліся ў расейскіе акопы і вярнуліся адтуль, вядучы 17 палонных.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: У усходніх Карпатах наступленьне ворагоў на дарозі Валепутна задзержано агнём нашай артылерыі.

*Фронт Макензэна*: Разам з Нанэсті 19 студня папалі ў нашы рукі ўсе упорна бараніўшыеся перадмостные акопы. Самае места было здабыто штурмам у вострых бітвах за кожын дом. Узяты 1 афіцэр, 555 салдатоў, 2 кулемёты і 4 мінамёты.

*Македонскі фронт*: У заваpоці Чэрнай, на ўсходзі ад Паралова, былі удачные опэрацыі нямецкіх патрулёў.

## Аустрыяцкае апавешчэньне.

ВЕНА 18.І. **Усходні тэатр**: (гл. нямецкае апав.).

**Італьянскі тэатр**: На плоскагоры Карст і ў даліне Віппаха і ўчора трываў агонь артылерыі.

ВЕНА 19.І. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** На паўночным адрэзку фронту Карсту нашы войскі ў удачных опэрацыях узялі 4 афіцэроў, 120 салдатоў і 1 кулемёт.

**«Вайна да канца!»**

БЭРЛІН. Ніжняя Палата: Соцыяліст Гірш заявіў:

„Пасьля атказу саюзьнікоў мы ня можэм больш сумлевацца аб патрэбе ваеваць далей“.

**Новая «Марская чайка».**

АМСТЭРДАМ. Паводлуг апавешчэньня англіцкаго адміралцейства аб затапленьні тарговых параходоў відаць, што гэта—работа нямецкаго капэрскаго параходу—новай «Марской чайкі».

БЭРЛІН. „Lok.-Anz“ даносіць, што новая «Марская чайка» затапіла англіцкіх і францускіх параходоў на 55.395 тонн.

ГААГА. У амстэрданскіх кругах кажуць, што новая «Марская чайка» затапіла параходоў ворагоў на 70—75 тысяч тонн. Цэнасць зьніштожэных параходоў і іх грузоў лічаць на 80 мільёноў марак.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 31 сьнежня 1916 году англіцкі параход «Jarrowdale», 4600 тонн, прыведзен каманда з новай «Марской чайкі» ў нямецкі порт Сьвінэмюндэ. На ім было: 469 палонных с 7 англіцкіх і аднаго норвэжскаго параходу, затопленых новай «Марской чайкай», 117 грузавых і 1 пасажырскі самаход, 6300 скрынак с патронамі, 30.000 шпуль калючаго дроту, 3.300 тонн сталі, многа мяса, саланіны і каўбас.

РОТТЭРДАМ. Рэўтэр даносіць з Ріо:

Калі «Марскую чайку» бачылі апошні раз, яна была памалёвана чорнай фарбай. Думаюць, што яна часта зменяе колер. Яна мае с сабой многа дэкорацый, каторымі зусім пераменяе свой выгляд.

С прычыны небаспечнасьці падарожы с прычыны „Марской Чайкі“ цэны на пшаніцу ўсё узрастаюць.

**Пагляд Англіі на мір.**

ЛОНДОН. Бальфур паслаў амэрыканскаму ураду тэлеграму, ў якой далей гаворыць:

„Пакуль Нямеччына астанецца Нямеччынай, якая без ніякаго права напала і згвалтавала старонку, каторую сама павінна была бараніць,—ніводнае гасударство ня можэ лічыць, што яго правы бароняць умовы. Бэльгія была сьведкай нягодных учынкоў і тэррору пасьля здабыцьця яе. Калі істнуючые умовы—гэта толькі шматкі паперы, дык ці новые умовы здалеюць нас бараніць у будучыне? З гэтай прычыны англіцкі народ ня можэ верыць, каб мір трываў доўга, калі ён ня будзе забаспечэн удачамі саюзьнікоў. Дзеля гэтаго Англія ускладала, ускладае і будзе ускладаць нялічэные ахвяры меньнем сваім і крывёй, цьвёрда веручы, што ад удачы саюзьнікоў залежыць надзея на мірную цывілізацыю і на міжнародные рэформы ў старым і новым сьвеці.

**Ваенная павіннасць у Індіі.**

ЛОНДОН. «Times» даносіць з Дэлі (Індія), што ў скорым часі будзе заведзена агульная ваенная павіннасць як для эўропэйцоў, так і для індусоў.

**Вялізны ўзрыў.**

ЛОНДОН. У Вэст-Эндзі, ў аднэй фабрыцы, дзе рабілі артылерыйскіе снарады, узняўся пажар і ад яго—ўзрыў. Самая будоўля фабрыкі і суседніе дамы зусім зруйнаваны. Забітых знайшлі дагэтуль 60, цяжка раненых — 112, лёгка раненых—260. Гэты ўзрыў быў самы страшэнны с-паміж усіх даўнейшых. У ваколіцах блізка на 1 кіл. навакол ляцеўшые палючыся абломкі запалівалі дамы. Кусок паравога катла каля 200 пудоў вагі быў далёка аткінут. Далёка разлеталіся массы гарэўшай жыдкасьці і распаленаго жалеза. Некалькі дамоў трэбало разабраць ажно да фундамэнтоў, каб не даць шырыцца пажару.

**Грэцкая трагедія.**

АФІНЫ. (Рэўтэр). Палажэньне с кожным днём палепшаецца. Учора пачаліся перэгаворы між саюзьнікамі і урадам аб выпаўненьні ультіматума. Староннікі Вэнізэлоса вечэрам выпушчэны на волю.

Сюды прыбылі саюзьніцкіе афіцэры, заведываючые кантролем. Народ спакоен.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

**Табор для ваенна-палонных Friedrichsfeld bei Wesel.**

Богдан Станіслаў, Скраі.
Бортко Юльян, Заборы.
Букоўскі Павал, Сьвенцянск.
Бурбуль Франц, Ворняны.
Дэміда Станіслаў, Дубелі.
Довэйніс Іван, Ліноміпкі.
Дыміхоўскі Пётр, Лаздуны.
Гольман Болеслаў, Твэрма.
Гушча Александар, Дменск.
Кавалеўскі Фэлікс, Савек.
Ковцянец Нікалай, Малікі.
Кулік Броніслаў, Градзжы.
Куней Эдвард, Вілейка.
Бэрэзоўскі Шымэль, Острыно.
Гурэвіч Ільля, Гольшаны.
Колтум Пэйсах, Вільня.
Дзеругін Мікалай, Русакі.
Дарожка Боніфац, Рожаны.
Дзірка Язэп, Крэво.
Гулецкі Міхал, Шмін.
Кавалеўскі Іван, Сьвіла.
Казлоў Міхаіл, Красносельск.

**Табор для ваенна-палонных Puchheim.**

II Батальён.

Дікштэйн Насон, Вільня.
Дікер Язэп, „
Городэнскі Абрам, Дабчышкі.
Яэш Давід, Вільня.
Прускі Лэйзэр, Купрыянішкі.
Шрэйбманн Шэвэль, Даўгіноў.
Шукстульскі Янкель, Вільня.
Сладоўнік Янкель, Радунь.
Сьвірскі Юдэль, Вільня.
Чыльпін Эфраім, Печонкі.

I Батальён.

Гэльфарб Мовша, Вільня.
Немэнчынскі Хаім, „
Рапапорт Ізраэль, „
Шэндэльц Ізраэль, „



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.